

Газета заснавана ў 1938 годзе. Адноўлена ў 1997 годзе.

# Газета Слонімская

№ 52 (133). 23 — 29 снежня 1999г. • Незалежны грамадска-палітычны штотыднёвік. Распаўсюджваецца ў Слоніме, Зэльве, Дзятлаве, Мастах. • Кошт 40.000 руб.




## З Калядамі!



Дарагія браты і сёстры!

Сёлетні год незвычайны, бо мы святкуем нараджэнне на зямлі 2000 гадоў назад Збавіцеля ўсіх людзей Ісуса Хрыста, які ўмацоўвае нас сваёй любоўю, дабрынёй і Божай сілай.

Кожны год Ісус па-новаму нараджаецца ў нашых сэрцах, нашых сем'ях, нашых дамах. Ён нясе людзям радасць, дапамагае памірыцца адзін з адным, даравацъ, стаць дабрэйшым і міласэрднейшым.

У гэты святочны дзень дарыце адзін аднаму падарункі, не забываючы, што лепшым падарункам для Ісуса з'яўляюцца нашы добрыя справы. За святочным сямейным сталом памаліцеся, павіншуйце адзін аднаго са святам, падзяліцеся аблаткай, якая сімвалізуе Хрыста.

Радасна і дастойна адзначым гэтае свята ў сваіх сем'ях, прыходах, не забываючы аб тым, што ў гэты дзень, 25 снежня, Гасподзь дорыць нам Самога Сябе!

**Ксёндз-дэкан Вітольд ЖЭЛЬВЕТРА, настаяцель касцёла Св. Андрэя**

## Ёлка ў кватэры — радасць ці раскоша?

**Навагодняя ёлка ў каляровых гірляндах і цацках у кватэры — заўсёды радасць для дзяцей.**

Але калі яе бацька высяча ў лесе без дазволу, то атрымае штраф у памеры 1 мільёна 600 тысяч рублёў (у залежнасці ад вышыні дрэўца). Таму лепш лясную прыгажуню купіць у лясніцтве. Кошт яе там значна меншы за штраф: ад 350 да 500 тысяч рублёў за ёлку (зноў жа, у залежнасці ад яе вышыні).

А каб упрыгожыць ёлку гірляндамі і цацкамі, бацькам трэба сур'ёзна раскашэліцца. Самы танны і непрыгожы "дожджык" каштуе 24 тысячы рублёў, гірлянда з электрычнымі лямпачкамі абыдзецца ў 2 мільёны 850 тысяч і даражэй, вершаліна на ёлку – ад 405 тысяч рублёў, цацкі – ад 180 да 500 тысяч і г.д. Дык сёння ёлка ў кватэры – гэта радасць ці раскоша?

**Сяргей ЧЫГРЫН**

НАВІНЫ

## Адрас "камбіната" — калгас Дубна

**Жыхар вёскі Сухінічы Мастоўскага раёна, раней судзімы Б., 1962 года нараджэння і асоба без пэўнага месца жыхарства 45-гадовы К. пры затрыманні ў Скідзелі пры сабе мелі два пакеты са свінінай.**

Высветлілася, што мяса нядобраякаснае і здабыта яно было на могільніку свінакомплекса "Прамень" калгаса "Дубна" Мастоўскага раёна.

Раней здыхляціна вывозілася для перапрацоўкі на спецыялізаваны ветсанутыльзавод у Ліду, але ў сувязі з адсутнасцю паліва на працягу некалькіх апошніх месяцаў вываз быў спынены. Мужчыны збывалі трупнае мяса на рынках Мастоў і ў Скідзелі. Прасілі нядорага – 150-200 тысяч рублёў за кілаграм. Таму пакупнікі знаходзіліся. Па гэтаму факту ўзбуджана крымінальная справа. Ужо стала вядома 6 фактаў, калі Б. і К. гандлявалі здыхляцінай. Па словах галоўнага ветэрынарнага ўрача комплекса К. Крыжэвіча, здыхае свіней у межах нормы. За тыдзень на могільнік трапляе дзве-тры дарослыя свінні. Адным словам, тавару было дастаткова. На шчасце, ні атручвання, ні яшчэ якіх-небудзь захворванняў пакуль не зарэгістравана.

**Язэп ПАЛУБЯТКА**

## Змяненні ў раскладзе руху гарадскіх аўтобусаў

**Як паведаміла карэспандэнту "ГС" намеснік дырэктара па перавозках слонімскага аўтапарка №3 Валянціна Жук, з 20 снежня ў Слоніме з'явіўся новы аўтобусны маршрут "Агрампрамтэхніка-Бальніца".**

Па гэтаму маршруту па рабочых днях курсіруе аўтобус №2. З прыпынку "Агрампрамтэхніка" аўтобус №2 адпраўляецца ў 7.15, 8.35, 9.55, 11.15, 13.15, 14.35, 15.55, 17.15.

З 18 снежня па выхадных днях у Слоніме пачало курсіраваць маршрутнае таксі "Аграпрамтэхніка-плошча Леніна-Аграпрамтэхніка". Кошт праезду ў гэтым таксі каштуе 40 тысяч рублёў.

Адменены рэйсы аўтобуса № 6 ад "Спадарожніка" на 7.40 і 16.55, ад КПФ на 7.18 і 8.03.

Новы расклад руху гарадскіх аўтобусаў "ГС" апублікуе ў наступным нумары.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

## Толькі для арганізацый

**На тэрыторыі Мастоўскага раёна на запраўках гаручае адпускаецца толькі для арганізацый.**

Прыватнікі вымушаны шукаць іншыя крыніцы для запраўкі ўласных аўтамабіляў.

## Норма на яйкі

**Сярод іншых відаў тавараў, продаж якіх унармаваны ў Мастах, сталі яйкі.**

Іх адпускаюць толькі па дзесяць штук у адны рукі. Аднак, не гледзячы на абмежаванні, гэты прадукт усё роўна набыць практычна немагчыма.

## Праблемы мастоўскай райаграпрамтэхнікі

**Рабочыя гэтага прадпрыемства ўрэшце атрымалі заработную плату за кастрычнік.**

У папярэднія гады да калядных святаў выплачваўся ўвесь заробак і яшчэ выдаваліся прэміі. Частка вадзіцеляў адпушчана ў адпачынак. Іх паслугі, магчыма, не спатрэбяцца да вясны.

**Антон МАКЕЙ**

ЗДАРЭННІ

## Смерць на рэйках

**Вечарам 18 снежня на 42 кіламетры дыстанцыі чыгункі Баранавічы-Слонім пад коламі таварнага цягніка загінуў ваеннаслужачы Слонімскай брыгады Міхаіл Коўш, які прызываўся на службу з Гродна.**

Як паведаміў карэспандэнту "ГС" намеснік камандзіра брыгады палкоўнік Анатоль Кудэрка, Міхаілу да звальнення ў запас заставалася служыць усяго 10 дзён.

У суботу, вяртаючыся са звальнення ў Слонім цягнікам Ваўкавыск-Баранавічы, Міхаіл выпадкова праехаў станцыю Слонім і выйшаў на прыпынку "Іса". Салдат вырашыў вярнуцца ў часць пешшу "па шпалах". Прыкладна ў 21 гадзіну машыніст таварнага цягніка, убачыўшы на рэйках чалавека, уключыў экстраннае тармажэнне, аднак пазбегнуць наезду на салдата не змог.

Расследаванне абставін трагедыі вядзе Баранавіцкая транспартная пракуратура.

## Згарэлі хлеў і "Жыгулі"

**На мінулым тыдні ў пажарную часць паступіла паведамленне, што на падворку жыхара Канстанціна Булаўчыка з вёскі Талькаўшчына Слонімскага раёна ўзнік пажар.**

Агнём цалкам знішчаны хлеў і "Жыгулі", якія там стаялі. Гэта здарылася 17 снежня.

А раніцай 19 снежня нечакана загарэўся хлеў жыхаркі Алены Карпенка з вёскі Жыровічы Слонімскага раёна. Пажарным удалося справіцца з агнём. Будынак атрымаў нязначныя пашкоджанні.

## З нажом на мужа

**У слонімскую бальніцу з нажавым раненнем быў дастаўлены 33-гадовы жыхар О. з вёскі Ваўчкі Слонімскага раёна, які працуе даглядчыкам жывёлы ў калгасе "Прагрэс".**

Як паведамілі карэспандэнту "ГС" у міліцыі, мужчыну параніла ў жывот падчас сваркі яго 32-гадовая жонка, якая працуе даяркай у гэтай жа гаспадарцы.

Узбуджана крымінальная справа.

## Абрабавалі прадпрымальніка

**20 снежня ў міліцыю звярнуўся прыватны прадпрымальнік Г., які жыве на завулку Перасюк у Слоніме.**

Ён паведаміў, што з яго кватэры невядомыя ўкралі тавару на агульную суму звыш 100 мільёнаў рублёў.

Міліцыя вядзе пошук злодзеяў.

**Валянцін ЧУРЫЛА**



## ЧТО СТОИТ ЗА ПОЯВЛЕНИЕМ ТАМАРЫ ВИННИКОВОЙ?

Возвращение из небытия бывшего председателя правления Национального банка Беларуси Тамары Винниковой внесло сумятицу в белорусское политическое поле, а кое-кого даже повергло в шок. Ее появление 10 декабря (в этот день она позвонила в редакцию "Белорусской деловой газеты") было столь же неожиданным и таинственным, как и исчезновение из-под домашнего ареста в ночь на 8 апреля 1999 года.

Публикация в "БДГ" – заявление и интервью Т.Винниковой – поначалу многими была воспринята настороженно, некоторыми – как провокация или рекламный трюк перед окончанием подписной кампании. Единственной реальной возможностью установить истину было заявление Винниковой о том, что 13 декабря она выступит в эфире радио Би-би-си.

Интервью состоялось.

(Продолжение на стр. 3)



## УВАГА! 24 снежня – апошні дзень падпіскі на «ГС»!

# ДОЛЛАРУ ДАЛИ СВОБОДУ

**В Беларуси введено свободное курсообразование на легальном рынке наличной валюты.**

Курс покупки американского доллара в обменных пунктах коммерческих банков колебался от 730 до 740 тысяч рублей, продажи – от 740 до 750 тысяч рублей. В то же время на "черном" рынке доллар покупали по 740-750 и продавали по 755-760 тысяч рублей.

Как сообщил БелаПАН заместитель председателя правления Национального банка Николай Лузгин, в течение недели в Бресте проводился эксперимент по проведению легальных операций с наличной валютой по реальному курсу. Его итоги признаны положительными: объемы сделок возросли на порядок, и если раньше обменные пункты главного управления Нацбанка покупали в день 100-150 долларов США, то сейчас счет идет на тысячи. Кроме того, заметно пошел на убыль криминогенный фактор.

Нацбанком принято решение ввести свободное курсообразование на всей территории страны. Банкам рекомендовано ориентироваться на средний курс "черного" рынка в том или ином регионе. Сеть обменных пунктов, по мнению Н.Лузгина, будет восстановлена в течение ближайшего времени.

"Думаю, что "черный" рынок не сможет заметно повысить курс, так как, во-первых, есть проблемы с наличными белорусскими рублями, а во-вторых, по нашей просьбе правоохранительные органы усилят борьбу с "черным" рынком", – сказал Н.Лузгин.

В случае если "черные" котировки все же резко подскочат, коммерческим банкам рекомендовано "не повышать значительно курс, не гнаться за "черным" рынком". "При разнице в пять-десять тысяч любой нормальный гражданин, конечно, пойдет в обменный пункт", – считает Н.Лузгин.

Официальный же курс доллара, как отметил Н.Лузгин, согласно решению Совета Министров до конца года не превысит 320 тысяч рублей. С нового года официальный курс будет изменяться в соответствии с уровнем инфляции.

Специалисты белорусского валютного рынка прокомментировали так произошедшую 14 декабря либерализацию легального наличного курса.

По мнению бывшего руководителя Национального банка Беларуси Станислава Богданкевича, "дойдя до тупика, власти начали делать некоторые шаги в правильном направлении". "За последние годы ими накоплен огромный опыт по административному регулированию валютного ранка, которое в конечном итоге ни к чему не привело, поэтому я полагаю, что на сей раз либерализация пришла к нам надолго", – считает С.Богданкевич.

"Событием культурной жизни" назвал решение Нацбанка главный редактор информационно-аналитического еженедельника "Белорусская газета" Игорь Высоцкий. "Отныне мы можем культурно поменять валюту в рамках мероприятий Национального банка по якобы либерализации рынка. Это будет продолжаться до тех пор, пока денежным властям не надоест созерцать в главках Нацбанка длинные очереди валютчиков, сдающих СКВ, купленную у населения по более низкому курсу. Сейчас уличных менял гораздо больше, чем обменных пунктов, поэтому они смогут диктовать свои условия. В свое время мы это уже проходили", – отметил И.Высоцкий.

Дилер одного из коммерческих банков страны высказал предположение, что решение Нацбанка не достигнет своей цели. По его словам, "либерализация в какой-то степени выбьет почву из-под "черного" рынка, но далеко не полностью: остаются ограничения по продаже валюты населению (не более 200 долларов США в одни руки), а также требования о предоставлении паспортных данных при ее приобретении, что устроит далеко не всех".

Дилер обратил внимание на невыгодность работы банков на легальном рынке, поскольку сейчас они не могут переводить средства с наличного рынка на безналичный и вправе лишь продавать купленную у населения валюту либо самому населению, либо Нацбанку. Налог же с полученной курсовой разницы достигает 55%. Оставшаяся прибыль может покрыть расходы на содержание обменных пунктов только при очень высоких оборотах, что в ближайшее время не представляется возможным.

По признанию валютчиков, либерализация наличного курса внесла сумятицу в работу "черного" рынка. В то же время они полагают, что "теневой" курс доллара будет превышать банковский на 5-10 тысяч пунктов, а в январе, после традиционного скачка, рынок вновь станет "законодателем мод", поскольку Нацбанк "вряд ли позволит банкам гнаться за "черным курсом".

**Дмитрий ВЛАСОВ**

ПОЧТА

## КАК БЫТЬ С КОЗЫРЬКАМИ?

К Вам обращается житель г. Слонима, проживающий по улице Клары Давыдюк, № 1. В 1998 году в нашем доме была накрыта крыша. Строители ее сделали очень хорошо, но они не накрыли козырьки на балконах. Я с ними разговаривал, и они мне сказали, что на это у них нет наряда. Так строители и уехали.

Я пошел в ЖЭС № 1 к товарищу Сухорукову, и он мне пообещал, что козырьки накроют в 1999 году, но обещание своё он не выполнил. Сейчас козырьки стали очень сильно разрушаться и скоро придут в аварийное состояние. Если так будет и дальше, то, возможно, придется их менять на новые, а это будет работы не на одну тысячу долларов.

**Иван МАКАРЕВИЧ,**
**пенсионер**

**ОТ РЕДАКЦИИ:** Мы связались с начальником ЖЭС-1 Алексеем Сухоруковым. По его словам, причина сложившейся ситуации в том, что строители не закончили свою работу во время капитального ремонта этого дома, который проводился в прошлом году. Именно они должны были накрыть козырьки балконов. Сейчас же трудно сказать, кто исправит эти недоработки...




ЗДАРЭННІ

## Два ўгоны за адзін дзень

**18 снежня ў 1 гадзіну 30 мінут трое слонімскіх юнакоў і дзяўчына ўгналі аўтамабіль "Форд", які належыць жахару М. з Брэсцкай вуліцы.**

Уладальнік іншамаркі праз акно выпадкова ўбачыў, што яго аўтамабіль ад'язджае ад дому і паведаміў пра гэта ў міліцыю. Угоншчыкі затрыманы.

А вось слонімцу О. з вуліцы Пушкіна не пашанцавала. У 9 гадзін раніцы ён паставіў свой "Фольксваген-Пасат" ля гарадскога рынку, а вярнуўшыся праз паўгадзіны з пакупкамі, не знайшоў сваё аўто на месцы стаянкі.

Міліцыя займаецца пошукам машыны.

**Валянцін ЧУРЫЛА**

## Не дажылі да новага стагоддзя

**У вёсцы Вензавец Дзятлаўскага раёна ў сваім доме раптоўна памёр 63-гадовы грамадзянін Т.**

А на адным з дзятлаўскіх азёраў сярод белага дня патануў пенсіянер, мясцовы жыхар.

## Прадаў фальшыўку

**Адзін з жыхароў пасёлка Наваельня, што ў Дзятлаўскім раёне, захацеў выпіць.**

Было ў яго 10 даляраў. З імі малады чалавек і прыйшоў у мясцовы бар. Купюру ён хутка прадаў, але неўзабаве выявілася, што яна была фальшывая.

## Цыганкі-ашуканкі

**На мінулым тыдні ў дом пенсіянеркі В., якая жыве ў вёсцы Крывічы Зэльвенскага раёна, зайшлі тры цыганкі.**

Падчас "прадказання лёсу" гаспадыні, яны так задурылі жанчыне галаву, што тая аддала ў рукі ашуканак 20 мільёнаў рублёў і залаты пярсцёнак. Праз некалькі мінут "варажбіткі" зніклі. Але не надоўга, бо хутка іх затрымала міліцыя.

Ашуканкамі аказаліся дзве жыхаркі Магілёва і адна з Калінкавіч Гомельскай вобласці.

Да адной пенсіянеркі вёскі Сверплевічы Дзятлаўскага раёна нядаўна таксама завіталі цыганкі.

Бабуля і азірнуцца не паспела, як яны ўкралі прадукты харчавання і некаторыя рэчы.

**Леанарда ЮРГІЛЕВІЧ**

## Ой, прапалі гусі

**Днямі ў Зэльвенскі РАУС паступіла паведамленне, што з неахоўваемай птушкафермы калгаса імя Леніна знікла 29 гусей.**

Міліцыя вядзе пошук аматараў гусяціны.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

## Суіцыд не атрымаўся

**Мастаўчанка Х., пасля спрэчкі, вырашыла скончыць сваё жыццё самагубствам.**

Паводле яе слоў, зрабіць гэта яна захацела эфектна. Падчас язды на аўтамабілі, яна на вялікай хуткасці з'ехала з шашы. Пасля аварыі машына рамонту не падлягае, а жанчына набіла сабе некалькі гузакоў.

**Антон МАКЕЙ**

## Не пашанцавала

**Жыхар В. з вёскі Масты Правыя Мастоўскага раёна выбраў менавіта 13 снежня, каб залезці ў склад.**

У гэты ж дзень яго затрымала міліцыя, і была ўзбуджана крымінальная справа за тое, што ён украў з зерняскладa саўгаса "Мастоўскі" 72 кг мукі і 18 кг збожжа.

**Міхась ЗАГОРСКІ**

# НОВЫЙ ТРУДОВОЙ КОДЕКС РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

**(начало в №49, 2-8 декабря)**

## Отпуска

В последнее время в Слонимскую межрайонную инспекцию труда поступает много телефонных звонков, как от руководителей организаций, так и от простых работников с просьбой разъяснить, что нового в Трудовом Кодексе в части предоставления отпусков. Люди спрашивают, правда ли, что работники теряют право на очередной отпуск, если имеется задолженность за предыдущие годы. Отвечаю однозначно — работники не теряют право на отпуск, даже если и имеется по нему задолженность.

В новом ТК РБ отпускам посвящена 12 глава "Трудовые и социальные отпуска". Как видно из названия самой главы, новый ТК дает трактовку трудовых и социальных отпусков, чего раньше не было. В ст. 149 ТК законодательно закреплено право работников на трудовые и социальные отпуска. Ст. 150 и 153 дали понятие отпусков, цель и общие условия предоставления трудового отпуска. Так, под отпуском понимается освобождение от работы на определенный срок для отдыха и восстановления работоспособности, укрепления здоровья и удовлетворения иных личных потребностей. Кроме того, трудовой отпуск предоставляется за работу в течение года (ежегодно) с сохранением прежней работы и среднего заработка. Под прежней работой понимается выполнявшаяся до отпуска работа у того же нанимателя, по той же специальности, должности и квалификации на том же рабочем месте. То есть работник имеет право после окончания отпуска вернуться на работу на свое прежнее место.

Как видно из содержания ст.150 ТК работникам предоставляется два вида отпусков: трудовые и социальные. К трудовым отпускам относятся:

— основной трудовой минимальный отпуск,
— основной трудовой удлиненный отпуск,
— дополнительный трудовой отпуск.

К социальным отпускам относятся:

— отпуска по беременности и родам,
— отпуск по уходу за детьми,
— отпуск в связи с обучением без отрыва от производства,
— отпуск в связи с катастрофой на Чернобыльской АЭС,
— творческий отпуск,
— отпуск по уважительным причинам личного и семейного характера.

Новым в ТК является, что продолжительность отпусков с 01.01.2000 года будет исчисляться в календарных днях (ст. 155 ТК) и минимальная продолжительность основного трудового отпуска устанавливается 21 календарный день (ст. 155 ТК). Государственные праздники и праздничные дни, приходящие на период отпуска в число календарных дней отпуска не исключаются и не оплачиваются. К примеру, если во время отпуска попали праздничные дни 1-го и 9-го мая, то они в число дней отпуска не включаются и не оплачиваются.

Новым в трудовом кодексе является и то, что раньше в соответствии со ст. 71 КЗОТ РБ отпуск за первый год работы предоставлялся по истечении 11 месяцев непрерывной работы у данного нанимателя. По новому ТК в соответствии со ст.166 трудовые отпуска (основные и дополнительные) за первый год работы предоставляются не ранее чем за 6 месяцев работы у нанимателя.

В тоже время согласно данной статье ТК наниматель обязан предоставить трудовые отпуска по заявлению работника до истечения 6 месяцев в следующих случаях:

— женщинам перед отпуском по беременности и родам или после него,
— лицам моложе 18 лет,
— работникам, принятым на работу в порядке перевода,
— работникам, которым предоставляется путевка для санаторно-курортного лечения,
— совместителям, если трудовой отпуск предоставляется по основному месту работы,
— учителям школ, преподавателям ПТУ, профессорско-преподавательскому составу высших и средних учебных заведений,
— участникам ВО войны,
— женщинам, имеющим двоих и более детей в возрасте до 14 лет или ребенка инвалида в возрасте до 18 лет;
— работникам, обучающимся без отрыва от производства в средних общеобразовательных школах (вечерних и сменных), ПТУ, вечерних и заочных высших и средних специальных заведениях,
— в других случаях, предусмотренных в коллективных договорах, соглашениях или трудовом договоре.

Трудовые отпуска (основной и дополнительный) за второй и последующие рабочие годы предоставляются в любое время рабочего года в соответствии с очередностью предоставления отпусков (ст. 167 ТК).

Очередность предоставления трудовых отпусков устанавливается для коллектива графиком трудовых отпусков, утверждаемых нанимателем по согласованию с профсоюзом не позднее 5 января текущего года.

**(Продолжение следует)**

**Адам САВКО,**
ведущий государственный инспектор Слонимской межрайонной инспекции труда

Газета Слонімская
Рэг. нумар 947 ад 24.03.97г.
Заснавальнік і рэдактар Віктар ВАЛАДАШЧУК

Адрас рэдакцыі:
231800, г.Слонім, вул. Я.Купалы, 5.
Тэлефоны:
рэдакцыі........... 2-14-39
............(017) 210-87-17
аддзел рэкламы 2-49-39
E-MAIL:gs@irex.minsk.by HTTP://gs.promedia.minsk.by

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні могуць не супадаць з поглядам рэдакцыі.

Рэдакцыя не вядзе перапіску з чытачамі і пакідае за сабою права рукапісы не рэцэнзаваць і не вяртаць.
Газета друкуецца на беларускай і рускай мовах.

Падпісана да друку 22 снежня 1999г.
Час падпісання 8:00.
Надрукавана ў Баранавіцкай узбуйненай друкарні, г. Баранавічы, вул. Савецкая, 80.

Падпісныя індэксы:
64042 (індывідуальная)
63818 (ведамасная)
Наклад 8200 экз.
Заказ № 3380

# ГОЛОС ИЗ ЛОНДОНА

Сегодня "ГС" предлагает текст интервью Тамары Винниковой в прямом эфире Би-Би-Си с некоторыми сокращениями.

— Я хочу заявить, что жива, что нахожусь в относительной безопасности и полна решимости бороться за свое имя, за имена тех, кто находится в застенках режима. И надеюсь, что у меня это получится. Знаю, что уже завтра будет вылито море лжи, море грязи. Но я привыкла к этому. И хочу заявить режиму и тем, кто выполняет заказы режима, что живу не в диком племени, не на необитаемом острове, — я нахожусь в европейском государстве. И если ко мне есть какие-то претензии, их можно предъявить согласно международным стандартам — я готова сотрудничать во имя установления истины.

***— Тамара Дмитриевна, вы были очень высокопоставленным чиновником этого режима и были достаточно близки к Олимпу власти и к самому президенту. И вдруг что-то произошло. Пожалуйста, ответьте честно: что случилось? Почему вы вдруг из "любимца богов" превратились в гонимого человека?***

— Все дело в том, что за месяц до моего ареста нужно было провести грязную сделку на один миллиард долларов. Для того, чтобы понять, что такое миллиард долларов для Республики Беларусь, достаточно сказать, что собственный капитал всех белорусских коммерческих банков равен восьмидесяти миллионам долларов. Вот что значит сделка в один миллиард долларов! И я была против нее, для чего и подключила КГБ. Но комитет был против меня. Затем возникли другие сделки: на 0,6 миллиарда долларов, по формированию на бартерной основе золотых запасов, сделки по "Торгэкспо" — когда без акцизов, без налогов в Россию хлынул поток водки и табачных изделий. Я была против этих сделок. Однако, согласно моим подсчетам, они все-таки были совершены. Может быть, не на миллиард долларов, а приблизительно на триста миллионов. Поэтому отнюдь не 17 августа виновато сегодня в бедах белорусской экономики, в инфляции, а именно эти сделки. Куда были зачислены эти миллионы?.. На этот счет были предложения, которые обсуждались лично у президента, причем дважды — в присутствии меня и представителей всех силовых структур... Таким образом, мой арест состоит из многих составляющих. После меня же были назначены люди, которые соглашались в процессе переговоров эти сделки провести. И они их провели. Об это сообщали газеты. И эта информация опровергнута не была.

***— Вы готовы вернуться на родину, когда это станет возможным, и готовы покаяться в чем-то содеянном вами. И раз уж вы сами подняли этот вопрос, хочу спросить: вы тоже чувствуете какую-то персональную ответственность за то, что произошло?***

— Безусловно. Нельзя ее не чувствовать. Ведь иногда нужно было возмутиться, иногда — громко рассказать людям о том, что происходят не те процессы. Мы же где-то промолчали, где-то не обратили внимания,.. Это, по большому счету, тоже преступление. А что же касается нарушений какого-то технического комплекса проведения операций... Ну что ж, подобное случается с любым банкиром. Если это преступление, то я тоже готова... Но, как вы понимаете, руководитель любого предприятия сам премию не начисляет и какие-то коэффициенты премирования не исчисляет, хотя меня в этом и пытались обвинить. Найдите министра, который вслед за главным бухгалтером пересчитывает, сколько там начислено прибыли, сколько начислено премий!..

***— То есть суть обвинений состояла в начислении излишних сумм?***

— Да.

***— Или еще в чем-то?***

— Думаю, что нашим радиослушателям могут быть интересны подробности самого моего ареста. Он произошел 14 января 1997 года. 13 же января все православные люди отмечают старый Новый год. И по этому поводу президент Беларуси Лукашенко давал банкет, на котором присутствовало очень много именитых гостей, в том числе была и я. И в этот день я последний раз попрощалась с президентом. При этом он сделал мне много комплиментов и пожелал много успехов. А назавтра я была арестована... Через несколько дней после моего ареста Александр Лукашенко заявил прессе (и это в последующем опровергнуто не было), что моей жизни угрожают три преступные группировки. И чтобы сохранить мне жизнь, меня и поместили в следственный изолятор КГБ. То есть (если это можно так трактовать) сегодня государство вместе с Александром Лукашенко для того, чтобы сохранить жизнь высшему должностному лицу государства (я уже не говорю о простом народе), вынуждено помещать его в следственный изолятор КГБ! Что же это за преступные группировки, с которыми не могут справиться Александр Лукашенко и структуры власти, те силовые структуры,


Фота IREX/ProMedia

которые оплачивает белорусский налогоплательщик? Наверное, это преступные группировки особого рода. Не можете же вы допустить, что Лукашенко не в состоянии справиться с каким-то бандитом...

***— Тамара Дмитриевна, как происходил арест? Вы знали о том, что можете быть арестованы?***

— Я думала, что это может произойти, потому что многие предупреждали меня об этом. Ведь он готовился теми людьми, кто хотел убрать меня с этой должности, кто был недоволен тем, как выполняются те или иные контракты. И я получала много писем (в том числе и от бывших сотрудников КГБ России), которые предупреждали меня о возможном аресте. Меня предупреждали и оппозиционеры. Говорили, что мне надо уехать. Мне советовали поступить так, как поступил премьер-министр Чигирь, — написать обращение к народу, обвинить режим во многих нарушениях и перейти в оппозиционный лагерь. Я знала, что арест свершится. Но у меня были и личные договоренности с Александром Лукашенко... Можно сказать так: у меня был шанс как-то опровергнуть то, в чем меня обвиняли. Но, к сожалению, такой возможности не представилось.

Чисто же технически арест произошел следующим образом: утром мне позвонил председатель Комитета государственного контроля, который сообщил, что в три часа дня состоится совещание. Он также сказал, что президент очень просил, чтобы я присутствовала на этом совещании. Причем он с велйким актерством передал интонации президента — его особенности голоса, его стилистику: "Без Тамары вы этот вопрос не решите. Так что, приходите". Хотя я не должна была присутствовать на этом совещании. Но когда пришла, увидела, что там были представлены все силовые структуры республики, поскольку на совещании решался вопрос по введению нового положения о валютном регулировании. Я еще подумала, что они настолько боятся меня, что собрали "силовиков" со всей республики! Их было очень много... Мне предложили присоединиться к совещанию. К сожалению, стул, на который мне предложили сесть, шатался. Сев, я сказала: "Подо мной шатается стул". При этом председатель Комитета государственного контроля стал белым, покрылся красными пятнами. Естественно, он знал, что произойдет дальше... Через пять минут ему передали записку, в которой меня просили выйти в соседнюю комнату к телефону. И когда я вышла, меня арестовали. До того никаких вопросов ко мне не было, никто никуда меня не приглашал, ни о чем не говорил.

***— Скажите, а как обращались с вами в тюрьме?***

— Вы знаете, выжить там было довольно сложно. Тем более, что ко мне отнеслись особо жестко: я десять месяцев находилась в одиночной камере. Вообще следует отдельно сказать о том, как устроена тюрьма КГБ, — камера там имеет форму гроба. Это психологически так сделано: когда ты ложишься спать или когда плохо себя чувствуешь и тебе позволяют прилечь, то возникает ощущение, что лежишь в гробу. Причем это не просто гроб — там воспроизведены все черточки, все детали. Само здание было построено в 1926 году. И эти камеры впитали все пытки 37-го года. Там нет вообще никакой воды — ни холодной, ни горячей. И чтобы помыться, тебя три раза в день — строго по расписанию — приглашают в общественный туалет. И хотя я женщина, но меня досматривали только мужчины. Но вы же понимаете, что предметы гигиены и вообще уход у женщин и у мужчин несколько иной. Т.е. ко мне вот такие пытки были применены. К тому же я была лишена возможности переписываться. У меня не было свиданий. Мне не разрешали пользоваться услугами адвоката — я говорила с адвокатом через два стекла и за закрытой дверью. Мне не разрешали пользоваться законами, документами. Не разрешали пользоваться врачебной помощью. Единственное, что мне позволили, — это несколько раз меня посетил мой священник. В присутствии высшего офицерского состава...

***— Сколько это продолжалось?***

— Десять месяцев. А через десять месяцев мне изменили меру пресечения. Но мне позволили вернуться не домой, а ь квартиру моего сына, может быть, только потому, что его квартира находится в соседнем доме с КГБ и МВД. Поэтому получалось, скажем так, довольно плотное наблюдение. Ко мне приставили охрану — круглые сутки в квартире находились "лучшие" люди режима из Главного управления государственной охраны...

***— Но лучшие люди не справились?***

— (Смеется.) Ну, как вы понимаете, сбежать от таких людей невозможно. Это очень сложно. И когда говорят "сбежала", я хочу напомнить, что в квартире всегда находилось большое количество вооруженных людей, которых через каждые два-три часа проверяли начальники высокого ранга. Это был постоянный двор силовых структур.

***— Однако невольно возникает вопрос: может быть, вам позволили сбежать?***

— Нет, нет. Просто меня передавали из группы охраны в группу людей, которые, скажем так, занимаются физическим уничтожением. Вот тут-то и произошла небольшая накладка, о которой говорить я не могу.

***— Но вам удалось сохранить присутствие духа, рассудок?***

— Вы знаете, только юмор помогал выжить в тех условиях. Больше ничего. Все от начала до конца было настолько абсурдным, что иногда в комнатах допроса стоял только хохот! Я могу привести несколько примеров. Так, единственное, что мне позволяли, — это читать газеты. И адвокаты всегда приносили мне прессу, в том числе и оппозиционную. В одной из газет был опубликован снимок человека преклонного возраста, который в одной руке держал сразу три портрета Лукашенко. Это было так интересно! Сама фигура этого человека олицетворяла то, что происходит сегодня в Беларуси. Я аккуратно вырезала этот снимок и приклеила его на стенку. Но руководитель следственного изолятора спросил: "Зачем вы повесили президента?". Я говорю: "Он не висит, а сидит. Со мной" (смеется). "Снимите. Это не положено. Вы нарушаете режим пребывания". Но я напомнила ему об указе, согласно которому в каждом учреждении государственного типа должны висеть портрет президента и флаг Республики Беларусь. Тогда он сказал: "Я принесу вам приличного президента" (смеется). Назавтра он принес другую фотографию. И я жвачкой приклеила ее на стену. Так что Лукашенко все время был со мной.

***— Тамара Дмитриевна, но вы все-таки банкир. Поэтому давайте поговорим на другую тему. В договоре, который ратифицировала Госдума России, в числе немногих очень конкретных положений есть одно, согласно которому будет создана единая валюта и для России, и для Беларуси. Считаете ли вы, что это отвечает белорусским интересам?***

— Дело в том, что я разрабатывала документы 1996 года, касавшиеся экономической семантики. И я была в составе официальной делегации, подписывавшей соглашение 1996 года. Я хочу заявить, что тогда довольно серьезно разрабатывались не только сам договор, но и механизмы внедрения этого договора. Однако на сегодняшний день можно сказать, что сработала только одна программа — программа оккупации Беларуси олигархическим капиталом. До сих пор не разработаны никакие механизмы, никакие параметры перехода одних принципов в другие и организации денежного обращения. Теперь же сработают только две программы: по вопросу слияния денежных систем и военная. Потому что, к сожалению, сегодня у власти находятся силовые структуры.

***

В МИД Великобритании знали о нахождении экс-главы Нацбанка Беларуси Тамары Винниковой в Лондоне месяц назад, сообщает "Интерфакс". Посол Беларуси в Великобритании связался с Foreign Office, где ему сообщили, что бывшая председатель Нацбанка Беларуси посещала своего сына, живущего в Лондоне. На вопрос посла, почему МИД Великобритании не уведомил белорусскую сторону о пребывании разыскиваемой по каналам Интерпола Винниковой, был получен ответ, что это было сделано "с целью сохранения конфиденциальности Винниковой".

В белорусском представительстве "Интерпола" не подтвердили и не опровергли информацию о пребывании Винниковой в Лондоне.

